Яноўскі А. А., Самусік А. Ф. Універсітэт Беларусі: асэнсаванне і рэалізацыя яго ідэі ў гісторыка-палітычных рэаліях часу / А.А. Яноўскі, А.Ф. Самусік // Российские и славянские исследования : науч. сб. Вып. 7 / редкол. : А. П. Са льков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск : БГУ, 2012. С.357 -370.

**А. А. Яноўскі, А. Ф. Самусік**

# УНІВЕРСІТЭТ БЕЛАРУСІ: АСЭНСАВАННЕ І РЭАЛІЗАЦЫЯ ЯГО ІДЭІ Ў ГІСТОРЫКА-ПАЛІТЫЧНЫХ РЭАЛІЯХ ЧАСУ

Гісторыя сучаснай мадэлі адукацыі сягае сваімі каранямі ў часы позняй антычнасці. Менавіта тады розныя педагагічныя падыходы былі зведзены ў адзіную сістэму, што дазволіла тагачасным асветнікам сфарміраваць трывалы школьны курс. Упершыню ў поўным аб'ёме ён быў прадстаўлены ў паэме паўночнаафрыканскага неаплатоніка, вядомага рытара пачатку V ст. М. Капелы «Брак Меркурыя і Філасофіі», дзе былі вызначаны славутыя «сем вольных мастацтваў» (septem artes liberalis). Вольнымі яны, дарэчы, сталі называцца таму, што першапачаткова прызначаліся для навучання дзяцей паўнапраўных рымскіх грамадзян. Першы міністр остгоцкага караля Тэадорыха Баэцый у пачатку VI ст. падзяліў іх на трывіўм (граматыка, рыторыка, дыялектыка) і квадрыўм (арыфметыка, геаметрыя, астраномія, музыка), за што правамоцна ўвайшоў у гісторыю ў якасці «бацькі схаластыкі» [1].

Адзначаны пералік дысцыплін і стаў у сярэднявечнай Еўропе асновай усёй сістэмы асветы. Пры гэтым працяглы перыяд іх у поўным аб'ёме не выкладалі, бо тагачасная педагогіка мела падкрэслена рэлігійны (царкоўныя і кляштарныя школы) ці практычны (магістрацкія і гільдэйскія школы) характар, а адпаведныя вучэбныя дапаможнікі былі вельмі вялікімі і складанымі. Так, лепшымі доўгі час лічыліся 20-томныя «Этымалогіі» Ісідора Севільскага (VII ст.), але яны зыходзілі з цяжкай для ўспрымання тэрміналогіі ды і сустракаліся ў школьных бібліятэках толькі зрэдку [2, с. 121].

Вядомы даследчык феномена ўніверсітэта французскі гісторык Жак Ле Гофф канстатуе, што таксама і інтэлектуал у часы заходнееўрапейскага сярэдневякоўя нараджаецца разам з горадам, з развіццём гандлю і прамысловасці, а адначасова ўзнікае і карпаратыўнае аб'яднанне інтэлектуалаў, якое ўвасобіў у сабе ўніверсітэт [3, 4]. Еўропа ўніверсітэцкага ўзроўню адукацыі (зыходзячы з сучаснага ўяўлення аб яе сутнасці) дасягнула ў канцы XII ст., калі быў створаны Балонскі ўніверсітэт. Сярэдневяковы Усход правобразы ўніверсітэтаў спазнаў раней, у часы росквіту арабскай культуры. І на Усходзе, і на Захадзе ўніверсітэты сталі часткай тагачасных цывілізацый пры непасрэдным удзеле ў іх стварэнні свецкай і царкоўнай улад. Адначасова перманентна ішла напружаная барацьба ўніверсітэцкіх карпарацый з уладнымі прадпісаннямі за набыццё і адстойванне сваіх прывілегій на самастойнасць як у інтэлектуальнай дзейнасці, так і ў ва ўзаемаадносінах з грамадствам. Пастаянна ўзрастаў уплыў універсітэтаў на важнейшыя сферы жыццядзейнасці дзяржавы і супольнасці, з яго магчымасцямі прадбачыць і паскараць надыход новага.

Пасля італьянскай Балоны вышэйшыя навучальныя ўстановы з'явіліся ў шмат якіх краінах: усяго да канца XV ст. у Еўропе было адкрыта больш за 60 універсітэтаў. Узнікшыя як своеасаблівыя карпарацыі людзей інтэлектуальнай працы (Universitas magistrorum et scolarium), з уласнай адміністрацыйнай і судовай аўтаноміяй, яны здолелі ўзняць працэс авалодання ведамі на якасна новы ўзровень. Пашырэнню падобнай сістэмы вышэйшай адукацыі спрыяла істотная мабільнасць тагачаснага насельніцтва еўрапейскіх краін. Адсутнасць належнай аховы дзяржаўных межаў, умоўны характар індывідуальнай свабоды і прыватнай уласнасці ў часы

**Яновский Олег Антонович** — заведующий кафедрой истории России Белорусского государственного университета, кандидат исторических наук, профессор; **Самусик Андрей Федорович** — доцент кафедры экономической истории Белорусского государственного экономического университета, кандидат исторических наук

феадалізму, а таксама адносна слабая нацыянальная самасвядомасць — вось тыя фактары, што спрыялі паўсюднаму перамяшчэнню вучнёўскай моладзі і пераўтварэнню ўніверсітэтаў у шматнацыянальныя супольнасці. Пры гэтым праявай пэўнай этнічнай самаідэнтыфікацыі стала стварэнне пры іх асобных «калегій» выхадцаў з адной краіны ці рэгіёну.

Менавіта дзякуючы гэтаму і беларускія землі неўзабаве атрымалі доступ да ўніверсітэцкай адукацыі. Хуткае пашырэнне ўплыву ў ВКЛ каталіцкай царквы пасля заключэння Крэўскай уніі патрабавала значную колькасць святароў. Для паскарэння працэсу запаўнення вакансій у Віленскім біскупстве і былі створаны асобныя «ліцвінскія калегіі» пры тэалагічных факультэтах універсітэтаў Прагі (1397) і Кракава (1409). Ініцыятарам арганізацыі першай з іх была каралева Ядвіга, якая за свой кошт утрымлівала ў Празе «12 ліцвінаў». У далейшым гэтую традыцыю працягнуў кароль Уладыслаў-Ягайла, які ў пачатку XV ст. павялічыў колькасць стыпендый для «ліцвінаў і русінаў» у абодвух універсітэтах (да канца XVI ст. іх скончылі 430 выхадцаў з Беларусі) [5, s. 65].

За XIV—XVI стст. магчымасцю атрымання ў Еўропе вышэйшай адукацыі скарысталася да 700 ураджэнцаў ВКЛ (каля паловы з іх атрымалі ступені бакалаўраў). Геаграфія падобных вандровак была вельмі стракатай: акрамя ўжо згаданых Польшчы (Кракаў) і Чэхіі (Прага) айчынныя «школяры» адпраўляліся ў Германію (Берлін, Лейпцыг, Вітэнберг, Нюрнберг, Кёнігсберг, Цюбінген, Інгальштадт, Грэйфсвальд, Расток), Італію (Падуя, Рым, Балонья), Швейцарыю (Базель), Францыю (Парыж), Англію (Лондан), Шатландыю (Эдынбург) і інш. Сярод тых, хто выязджаў за мяжу на вучобу, былі ўраджэнцы значнай часткі беларускіх гарадоў і мястэчак (Полацк, Гродна, Брэст, Мінск, Віцебск, Навагрудак, Пінск, Ваўкавыск, Слонім, Клецк, Любань, Орша, Валожын, Ашмяны, Ліда, Ракаў, Мядзель, Любча, Свір, Геранёны, Нясвіж, Дрысвяты, Жупраны, Усялюб) [6, с. 10].

Тагачасныя ўніверсітэты, нягледзячы на прысутнасць у іх тэалагічных факультэтаў, найперш з'яўляліся носьбітамі свецкай культуры і гуманістычнага светапогляду. Такі адценак іх дзейнасці не мог задаволіць значную частку кансерватыўнага грамадства. Пэўным кампрамісам паміж імкненнем прадстаўнікоў апошняга атрымаць вышэйшую адукацыю і іх жаданнем пры гэтым застацца ў межах звыклай рэлігійнай традыцыі стала з'яўленне каталіцкіх манаскіх навучальных устаноў універсітэцкага ўзроўню. Як правіла, яны мелі назвы акадэмій і размяшчаліся ў значных культурна-асветніцкіх цэнтрах Еўропы. Так, дамініканскі ордэн ужо ў XIV ст. меў уласныя вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Оксфардзе (Англія), Парыжы, Тулузе, Манпелье (Францыя), Барселоне (Іспанія), Неапалі (Італія), Кёльне (Германія) і інш. Цэнтрам вышэйшай адукацыі ордэна быў Парыж, куды кожная правінцыя ордэна мела права пасылаць трох студэнтаў штогод [2, с. 86].

Надзвычай актыўна ў гэтай сферы з сярэдзіны XVI ст. стаў дзейнічаць езуіцкі ордэн, які акрамя пачатковых ды сярэдніх школ за наступныя паўтара стагоддзя здолеў заснаваць у еўрапейскіх краінах 20 уласных акадэмій [7, с. 83]. Не стала выключэннем і ВКЛ: у Вільню іх у 1569 г. запрасіў мясцовы біскуп В. Пратасевіч. Утвораны тут езуітамі калегіўм 7 ліпеня 1578 г. прывілеем караля Стэфана Баторыя быў узведзены ў ранг акадэміі з правамі, роўнымі Кракаўскаму ўніверсітэту. А 30 кастрычніка 1579 г. Святы прастол зацвердзіў рашэнне аб утварэнні Віленскай езуіцкай акадэміі. Разам з тым, нягледзячы на высокі статус, было адкрыта ўсяго два факультэты — філасофскі і тэалагічны. На першым з іх выкладаліся гуманітарныя і прыродазнаўчыя прадметы, старажытныя ды сучасныя мовы, а на другім — багаслоўскія навукі. Дзейнічаў пры акадэміі і 5-класны калегіўм, які даваў сярэднюю адукацыю. Навучальны працэс у езуітаў меў ступеньчаты характар — пасля заканчэння сярэдняга курса лепшыя з выхаванцаў пераходзілі на філасофскі факультэт, а найбольш выдатныя яго выпускнікі траплялі на тэалагічны, дзе вучылася ўсяго некалькі дзясяткаў студэнтаў (у цэлым у віленскіх езуітаў штогод займалася ад 700 да 1200 юнакоў). Разам з тым паўнавартасным універсітэтам Віленскую акадэмію назваць усё ж цяжка, бо калі філасофскі факультэт

яшчэ больш-менш нагадваў традыцыйны падрыхтоўчы факультэт мастацтваў, то з трох вышэйшых факультэтаў у наяўнасці быў толькі тэалагічны. Адзіная спроба адкрыць у сталіцы ВКЛ дадатковыя курсы прыпала на 1644—1654 гг., калі тут дзейнічала кафедра кананічнага і грамадзянскага права, а таксама планавалася заснаваць медыцынскі факультэт. Аднак у 1654 г. расійскія войскі захапілі Вільню, і акадэмія на доўгіх восем год увогуле спыніла сваю працу. Пасля яе аднаўлення гаворка аб нейкіх карэнных зменах у арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу ўжо не ішла ажно да ліквідацыі езуіцкага ордэна ў 1773 г. [8, с. 103—106].

Рэальнае пераўтварэнне акадэміі ў сапраўдны ўніверсітэт пачалося толькі ў час дзейнасці Адукацыйнай камісіі. Ініцыятарам стала мясцовая прафесура з ліку экс-езуітаў. Так, 21 снежня 1773 г. быў складзены праект рэфармавання вучэбнага працэсу праз пашырэнне выкладання прыродазнаўчых навук. Але праблемы са своечасовым фінансаваннем не дазволілі яго цалкам ажыццявіць (па ініцыятыве прафесара Ю. Міцкевіча адкрылася кафедра эксперыментальнай фізікі, а прафесар М. Кнакфус пачаў выкладаць курс архітэктуры) [9, с. 43—44]. Праблема размеркавання сродкаў амаль прывяла да знішчэння Віленскай акадэміі. Па падліках Адукацыйнай камісіі, з-за шматлікіх злоўжыванняў рэальна на асвету расходвалася толькі трэць ад даходаў з экс-езуіцкай маёмасці. Сярод тых, хто з-за гэтага скандалу быў вымушаны пакінуць сваю пасаду, аказаўся і яе рэктар І. Жаба. Візітатар Й. Выбіцкі, які з гэтай нагоды наведаў Вільню ў 1779 г., у сваёй справаздачы палічыў рэфармаванне Віленскай акадэміі немэтазгодным, бо розніца паміж ёй і еўрапейскімі ўніверсітэтамі была, па трапнай заўвазе рэвізора, як «паміж жывым чалавекам і нябожчыкам» [10, s. 63]. У вынікуя пэўны час рэальнай выглядала ідэя пераўтварэння яе ў ліцэй з адначасовым адкрыццём новага ўніверсітэта ў Беластоку [11, s. 55].

У рэшце рэшт члены Адукацыйнай камісіі рашыліся распачаць істотную рэарганізацыю. У Вільні гэтым заняўся прафесар астраноміі М. Пачобут-Адляніцкі, які ў 1780 г. стаў новым рэктарам акадэміі. Ён адразу ж стварыў кафедры права, гісторыі, літаратуры, тэалогіі, матэматыкі і прыродазнаўства. Пасля чаго ў 1781 г. ім быў падрыхтаваны праект новага статута Віленскай акадэміі, і 24 лістапада гэтага ж года яна афіцыйна атрымала назву Галоўнай школы ВКЛ (Schola Princeps Magni Ducatus Lithhuaniae). Самі рэформы былі кампрамісам паміж патрабаваннямі Адукацыйнай камісіі і мясцовай рэчаіснасцю. Замест прапанаваных чатырох факультэтаў (фізічнага, медыцынскага, юрыдычнага і тэалагічнага) былі створаны дзве калегіі: фізічная (выкладаліся вышэйшая і прыкладная матэматыка, астраномія, фізіка, хімія, механіка, прыродазнаўства, палеанталогія, медыцынскія навукі) і маральная (тэалогія, Святое Пісанне, старажытныя мовы, кананічнае, рымскае, прыроднае і айчыннае права, усеагульная гісторыя, рыторыка, польска-лацінская літаратура). Калегіям былі прадастаўлены правы на прысваенне вучоных ступеняў па сваіх спецыяльнасцях [12, с. 297].

Адносна слабая ўвага медыцынскім навукам у Вільні тлумачылася тым, што з 1776 г. у Гродна працавала Каралеўская медыцынская школа (Ecole Royale de Medecine Grodno) на чале з французскім навукоўцам Ж. Э. Жыліберам. Яна мела два асноўныя аддзяленні з курсам навучання тры гады. У першым з іх юнакі «добрага паходжання і выдатных здольнасцяў» рыхтаваліся ў якасці «дасканалых лекараў для гарадоў». У другім — таленавітых дзяцей прыгонных сялян Брэсцкага, Гродзенскага, Оліцкага, Шавельскага каралеўскіх уладанняў за кошт дзяржавы вучылі на правінцыяльных лекараў і хірургаў. Пры акадэміі дзейнічала таксама і школа павівальнага майстэрства. Агульная колькасць выхаванцаў тут зрэдку дасягала 50 чалавек, але толькі на першым з пералічаных аддзяленняў маладыя шляхціцы (звычайна не больш 10 юнакоў) атрымлівалі сапраўдную вышэйшую медыцынскую адукацыю [13].

М. Пачобут-Адляніцкі быў рэзка супраць існавання асобнай вышэйшай медыцынскай школы ў Гродна і таму, як толькі яе апякун А. Тызенгаўз трапіў у караля ў няміласць і быў звольнены з усіх пасад, ён у 1781 г. дабіўся яе пераводу ў Вільню, дзе быў створаны асобны медыцынскі аддзел з 5 кафедр у складзе фізічнай калегіі. Яго кіраўніком быў прызначаны

выхаванец Падуанскага ўніверсітэта доктар медыцыны і філасофіі С. Бісі, а Ж. Э. Жылібер стаў загадчыкам кафедры прыродазнаўства [14, s. 16].

Пасля ўваходжання Вільні ў склад Расійскай імперыі тутэйшая Галоўная школа, дзякуючы найперш намаганням свайго рэктара, не толькі здолела амаль цалкам захаваць выкладчыцкі корпус (за ўдзел у паўстанні Т. Касцюшкі былі звольнены прафесары М. Карповіч і М. Тамашэўскі), але нават пашырыць колькасць выкладаемых прадметаў — адкрылася новая кафедра прыгожых мастацтваў і была павялічана кафедра хіміі. У 1797 г. медыцынскія кафедры былі вылучаны ў асобны факультэт. У 1799 г. было 36 прафесараў, ад'юнктаў і выкладчыкаў, 180 студэнтаў [15, s. 273].

Росквіт вышэйшай навучальнай установы ў былой сталіцы ВКЛ прыйшоўся на першую трэць XIX ст., калі яна стала на чале ўсёй школьнай справы ў Літве, Беларусі, а таксама ў Заходняй і Цэнтральнай Украіне. Падставай для гэтага стаў «Акт утверждения для Императорского Университета в Вильне», зацверджаны Аляксандрам I 4 красавіка 1803 г. У гэтым дакуменце юрыдычна замацоўваліся яго падпарадкаванне Міністэрству народнай асветы, права на ўласную цэнзуру і выданне кніг, самастойнасць у прысуджэнні навуковых званняў (магістраў і дактароў філасофіі, медыцыны, права і багаслоўя), падначаленасць універсітэту ўсіх навучальных устаноў акругі [16].

Далейшым развіццём Акта сталі прыняты 18 мая 1803 г. «Устав, или Общие постановления Императорского Университета в Вильне и училищ его округа». Ужо 17 чэрвеня адбылося ўрачыстае адкрыццё ўніверсітэта. Новы статут быў наступным крокам, у параўнанні са статутам Галоўнай школы, да лібералізацыі вышэйшай адукацыі праз пашырэнне правоў выкладчыкаў і студэнтаў. Адбылося гэта з прычыны арыентацыі яго складальнікаў на дасягненні рэфарматараў нямецкіх універсітэтаў (у першую чаргу — Йенскага і Гётынгенскага), якія лічыліся лепшымі ў тагачаснай Еўропе. Універсітэт меў чатыры факультэты: фізіка-матэматычны (дзяліўся на фізіка-матэматычнае і хіміка-прыродазнаўчае аддзяленні, дзе было 9 кафедраў з 12 прафесарамі і выкладаліся фізіка, хімія, прыродазнаўства, батаніка, астраномія, вышэйшая і прыкладная матэматыка, архітэктура, агранамія, геадэзія), медыцынскі (6 кафедраў, 7 прафесараў, выкладаліся анатомія, паталогія, клінічная тэрапія, хірургія, акушэрства і ветэрынарыя), навук маральных і палітычных (7 кафедраў, 10 прафесараў, выкладаліся логіка, метафізіка, філасофія, мараль, прыроднае, палітычнае і народнае права, палітэканомія, агульная і царкоўная гісторыя, дагматычнае і маральнае багаслоўе, грамадзянскае і крымінальнае права старажытных і сучасных народаў, у тым ліку Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі), літаратуры і вольных мастацтваў (4 кафедры, 5 прафесараў, выкладаліся красамоўства, грэчаская, лацінская, польская, руская, англійская, нямецкая і французская мовы, паэзія, маляванне, скульптура). Было афіцыйна заяўлена, што колькасць кафедраў, а значыць і прафесараў, будзе пастаянна павялічвацца.

Дадаткова ў склад універсітэта ўваходзілі ў якасці самастойных устаноў галоўная духоўная і настаўніцкая семінарыі. Агульнае кіраўніцтва ўніверсітэтам было даручана савету прафесараў. Менавіта ён прызначаў загадчыкаў кафедраў, дэканаў факультэтаў і прапаноўваў імператару кандыдатуру будучага рэктара, які абіраўся на тры гады і быў старшынёй савета. Для вырашэння шматлікіх паўсядзённых праблем пры савеце быў створаны асобны выканаўчы орган — праўленне, якое складалася з рэктара, дэканаў факультэтаў і сакратара [17, с. 610—620].

Віленскі ўніверсітэт і падначаленыя яму сярэднія ды пачатковыя навучальныя ўстановы мелі ў Расійскай імперыі фактычную аўтаномію. Адбылося гэта шмат у чым дзякуючы пазіцыі ўніверсітэцкага куратара кн. Адама Чартарыйскага, які разам з паплечнікамі здолеў дабіцца захавання вучэбных праграм Адукацыйнай камісіі, а таксама польскай мовы навучання. Вельмі хутка тутэйшыя школы пераўтварыліся ў сапраўдныя палітычна-дыскусійныя клубы, у якіх моладзь пры дапамозе настаўнікаў атрымлівала выхаванне ў антыімперскім

духу і лічыла сваёй асноўнай задачай аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. На першым месцы ў распаўсюджванні падобных ідэй стаяў, зразумела, Віленскі ўніверсітэт, дзе патрыятычныя настроі былі надзвычай моцнымі [18, s. 43, 138].

Пецярбург спачатку не вельмі сур'ёзна ўспрымаў развіццё падзей у заходніх губернях і быў больш заклапочаны пагрозай вайны з Напалеонам. Урадам былі ўсё ж прадпрыняты пэўныя захады па змяншэнні ўплыву Віленскага ўніверсітэта. Было вырашана падтрымаць езуітаў, якія адкрыта дэманстравалі сваю лаяльнасць і былі згодны выкладаць на рускай мове, выкарыстоўваючы імперскія падручнікі. 12 студзеня 1812 г. па прапанове міністра народнай асветы гр. А. Разумоўскага Полацкі калегіўм быў пераўтвораны ў акадэмію з правамі ўніверсітэта. Гаспадарчае кіраванне ёю было даручана генералу ордэна, а кантроль за выхаваўчым працэсам аддаваўся Міністэрству народнай асветы (праз штогадовыя рэвізіі і справаздачы).

Праўленне акадэміяй складалася з рэктара, канцлера, 3 дэканаў, 4 кансультатараў і сакратара. Яна мела тры факультэты: багаслоўскі (4 прафесары выкладалі Святое Пісанне, дагматычнае і маральнае багаслоўе, кананічнае права і свяшчэнную гісторыю), вольных мастацтваў (8 прафесараў выкладалі паэзію, рыторыку, мараль, логіку, дыялектыку, метафізіку, агульную і эксперыментальную фізіку, хімію, трыганаметрыю, мінералогію, астраномію, матэматыку вышэйшую і прыкладную, архітэктуру грамадзянскую і ваенную, прыродазнаўства, права прыроднае, прыватнае і рымскае грамадзянскае, агульную гісторыю, эканомію, статыстыку, батаніку, заалогію, рускае заканадаўства і дыпламатыю), моўны (7 прафесараў выкладалі грэчаскую, лацінскую, яўрэйскую, арабскую, сірыйскую, польскую, рускую, французскую, італьянскую і нямецкую мовы). Выпускнікі атрымлівалі чын 14-га класа. Пры акадэміі дзейнічалі 5-класны калегіўм, прыходскае вучылішча, шляхецкі платны пансіён, семінарыя для збяднелай шляхты і бурса для бедных [19, с. 10—11]. Полацкай акадэміі падпарадкоўваліся ўсе езуіцкія школы ў імперыі, што ў значнай ступені аслабляла кантроль Віленскага ўніверсітэта над Усходняй Беларуссю.

Прафесараў у Полацку ў 1818 г. было 39 (у Вільні — 47), а студэнтаў адпаведна 520 і 500. Не саступалі езуіты і па колькасці вучэбнага абсталявання, бібліятэчнаму збору (40 тысяч тамоў), навуковай каштоўнасці калекцый (прыродазнаўчы музей, архітэктурных мадэляў, нумізматыкі, хімічная лабараторыя, карцінная галерэя). Імператарскім указам ад 11 жніўня 1814 г. Полацкая акадэмія атрымала права прысвойваць універсітэцкія ступені магістраў свабодных мастацтваў і багаслоўя, дактароў філасофіі, богаслоўя, грамадзянскага і кананічнага права. Адзінае, што магла рабіць у адказ Вільня — крытыкаваць езуітаў, параўноўваючы іх вучэльню са старадаўняй мядзвежай акадэміяй у Смаргоні. А. Пагодзін характарызаваў яе як «довольно забавное подражание Виленскому университету, исключая медицинские науки» [20, с. XLV].

Асветніцкая дзейнасць езуітаў у Расійскай імперыі працягвалася нядоўга. Шматлікія скаргі на ордэн за «совращение православных в католицизм» і расчараванне ў ім расійскага ўрада прывялі да выдання 13 сакавіка 1820 г. указа аб выгнанні езуітаў за межы імперыі, а «Полоцкую иезуитскую академию и подведомственные ей училища упразднить» [16, ст. 1346]. А. Чартарыйскі паспрабаваў адразу ж вярнуць пад свой кантроль усход Беларусі. Ён дабіўся таго, каб тутэйшыя экс-езуіцкія школы аддалі манахам іншых каталіцкіх ордэнаў. У Полацку піяры з ліку выпускнікоў Віленскага ўніверсітэта адкрылі ў 1822 г. Вышэйшае вучылішча. Згодна з статутам, яно падзялялася на прыходскае і павятовае вучылішчы з гімназічным курсам навук і 3-гадовыя «курсы высших наук», дзе выкладаліся прадметы па праграмах расійскіх ліцэяў [21, арк. 229—230]. Адзіным адрозненнем Вышэйшага вучылішча ад ліцэяў, якія звычайна мелі вузкую спецыялізацыю, быў падзел вышэйшых курсаў на два аддзелы: літаратурны і матэматычны. Аднак мэта дзейнасці піярскай навучальнай установы пры гэтым не змянілася — вышэйшую адукацыю тут маглі атрымаць тыя, хто не меў магчымасці

вучыцца ва ўніверсітэце. А такіх, улічваючы агульную колькасць збяднелай шляхты, было дастаткова многа (250—300 штогод).

Адносна спакойная дзейнасць піярскага вучылішча ў Полацку, таксама як і ўніверсітэта ў Вільні, была часовай. Восенню 1823 г. паўсюдна адбыліся арышты членаў нелегальных студэнцкіх ды вучнёўскіх таварыстваў. Было зменена ўсё кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі, пачаўся працэс русіфікацыі мясцовай сістэмы адукацыі, жыхарам заходніх губерняў было забаронена вучыцца за мяжой, а школы Магілёўскай і Віцебскай губерняў сталі перадавацца пад кантроль Пецярбургскай навучальнай акругі, што неспрыяльна паўплывала на лёс Полацкага вышэйшага вучылішча. Летам 1826 г. яго аглядаў візітатар Пецярбургскага ўніверсітэта В. Сянкоўскі, які вельмі негатыўна ды прадузята аднёсся да асветніцкай дзейнасці тутэйшых піяраў і прымусова рэарганізаваў ліцэй у звычайную гімназію [22, с. 74—80, 117—118].

Далейшае развіццё падзей у адукацыйнай сферы вызначыла падаўленне паўстання 1830—1831 гг. Студэнцкая моладзь і прафесура яго актыўна падтрымалі: яны нават стварылі асобны акадэмічны легіён. Рэакцыя расійскага ўрада была вельмі жорсткай: указ ад 1 мая 1832 г. адзначаў: «Находя нужным закрыть Виленский университет, мы повелели Министерству народного просвещения передать в ведомство Министерства внутренних дел медицинский и богословский факультеты сего университета для преобразования первого в медико-хирургическую академию, а второго в духовное училище, употребив для преподавания в оных наук и для других должностей тех из нынешних профессоров и чиновников университета, кои окажутся благонадёжными» [23, с. 225]. Было вырашана адкрыць ліцэй у Оршы з філасофскім (12 прафесараў, 3 ад'юнкты) ды юрыдычным (5 прафесараў) аддзяленнямі з мэтай забеспячэння Усходняй Беларусі добрападрыхтаванымі чыноўнікамі і настаўнікамі. Але неўзабаве ўлады вырашылі абмежавацца дазволам моладзі з Беларусі вучыцца ў Кіеўскім універсітэце.

Што датычыцца акадэмій у Вільні, то яны ў цэлым здолелі захаваць традыцыі Віленскага ўніверсітэта, хаця з яго ранейшага складу і быў звольнены 21 прафесар (з 52) [24, с. 3—6, 16]. Статут Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі быў зацверджаны 31 жніўня 1832 г.: яна мела 5-гадовае медыцынскае, 4-гадовае ветэрынарнае і 3-гадовае фармацэўтычнае аддзяленні. Штат складалі прэзідэнт, інспектар, 4 яго памочнікі, 15 прафесараў з ліку былых супрацоўнікаў універсітэта. Канферэнцыя выкладчыкаў мела права прысвойваць вучоныя званні па медыцыне. Вучылася тут звычайна звыш 850 юнакоў. Крыху пазней была заснавана Віленская духоўная рымска-каталіцкая акадэмія — адпаведны ўказ выйшаў 1 ліпеня 1833 г. Па свайму статуту яна складалася з вышэйшага аддзялення на 40 клірыкаў, епархіяльнай семінарыі і духоўнага вучылішча армяна-католікаў на 60 выхаванцаў. З 1839 г. акадэмія прысвойвала вучоныя ступені магістраў і дактароў багаслоўя, а таксама кананічнага права. З прычыны актывізацыі антыўрадавых настрояў сярод студэнтаў 29 красавіка 1840 г. імператарскім указам медыка-хірургічную акадэмію ліквідавалі (канчаткова была закрыта праз два гады), большасць абсталявання перавезлі ў Кіеў «для усиления медицинского факультета». У 1842—1844 гг. і духоўную акадэмію па рашэнні ўрада перавялі з Вільні ў Пецярбург, дзе «весьма удобно могло бы быть положено основание новому, чисто духовному направлению образующегося в Академии сей духовенства, с устранением... враждебных политических идей. Для сего было бы необходимо, что бы Академия... устранена была и самой местностью от прямого влияния своего высшего духовенства» [25].

Беларускія губерні аказаліся пазбаўлены ўласнага цэнтра вышэйшай адукацыі (адзіныя ў імперыі), што выклікала вялізную хвалю хадайніцтваў ад мясцовага грамадства. Каб часткова задаволіць тутэйшае насельнітва, а таксама з прычыны пачатку паступовай мадэрнізацыі прыгоннай вёскі, было вырашана ўзвесці Горы-Горацкую земляробчую школу (адкрыта ў 1836 г.) у ранг інстытута з правамі ўніверсітэта. Статут інстытута зацвердзіў Мікалай I 30 чэр-

веня 1848 г. Асноўнай мэтай новай навучальнай установы з'яўлялася падрыхтоўка добраадукаваных аграномаў, якія б маглі не толькі распаўсюджваць практычныя веды па рацыянальнаму вядзенню сельскай гаспадаркі, але і займацца тэарэтычнай распрацоўкай магчымых кірункаў удасканалення і пераарыентацыі вытворчасці аграрнага сектара не толькі Беларусі, але і ўсёй Расійскай імперыі. Вучэбны курс першапачаткова разлічваўся на 4 гады і ўтрымліваў наступныя прадметы: агульныя (Закон Божы, руская мова і літаратура, гісторыя, геаграфія, нямецкая і французская мовы, логіка), спецыяльныя (паляводства, лугаводства, жывёлазнаўства, агульная агранамія, батаніка, заалогія, статыстыка сельскай гаспадаркі, планаметрыя сельская архітэктура, меліярацыя, мінералогія, механіка, ветэрынарыя) і дапаможныя (матэматыка, фізіка, хімія, бухгалтэрыя, заканадаўства, палітэканомія). На гуманітарныя навукі адводзілася каля чвэрці вучэбных гадзін. З 1859 г. вучэбная праграма была значна зменена. Карэкцыя адбылася з прычыны пераарыентацыі інстытута з падрыхтоўкі агранома-ўніверсала на агранома-спецыяліста вузкага профілю. Дзеля гэтага курс быў скарочаны да трох год. Ужо пасля першага курса студэнт быў абавязаны абраць сабе спецыяльнасць — «земляробства», «жывёлагадоўля», «эканоміка» ці «лесазнаўства». Частка прадметаў ліквідавалася (логіка, механіка, заканадаўства). Выпускнікі інстытута атрымлівалі званне агранома (з 1859 г. — кандыдата аграноміі), якое адпавядала ўніверсітэцкаму кандыдату. Колькасць студэнтаў у Горы-Горках перавышала 150 юнакоў [26, с. 19]. Ракавым для земляробчага інстытута стаў 1863 г., калі частка студэнтаў разам з атрадам Л. Звяждоўскага ў ноч на 24 красавіка захапіла Горкі і паспрабавала ўзняць паўстанне на ўсходзе Беларусі. Разбурэнне інстытута стала натуральным: імператарскім указам ад 24 ліпеня 1863 г. ён быў пераведзены ў Пецярбург, дзе ў 1877 г. яго перайменавалі ў Лясны інстытут.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. рэгулярна ствараліся праекты адрыцця ў Вільні, Віцебску, Полацку і Мінску ўніверсітэта, політэхнічнага інстытута ці праваслаўнай духоўнай акадэміі, якія ў Пецярбургу заўжды рэгулярна адхіляліся з амаль аднолькавай фармулёўкай, накшталт: «Государь повелел оставить прошение без последствий». Сярод аргументаў праціўнікаў стварэння ў «Паўночна-Заходнім краі» імперыі вышэйшай навучальнай установы можна назваць таксама ці то «это было бы на руку полякам и евреям», ці — «может создать в православной церкви сепаратизм». Большасць імперскіх чыноўнікаў увогуле не бачыла праблемы ў адсутнасці ў Беларусі вышэйшай навучальнай установы, бо «на расстоянии всего только одних суток по железной дороге» знаходзіліся ўніверсітэцкія Пецярбург, Масква, Кіеў і Варшава. У выніку такога стаўлення дадзенае пытанне паступова, на іх думку, адыходзіла «в область забвения», а ініцыятары падобных хадатайстваў з болем адзначалі, што ўздымаць яго таксама бессэнсоўна, як і «вопиять в пустыне» [27].

У кантэксце кароткага разгляду гісторыі вышэйшай адукацыі на беларускіх землях ёсць неабходнасць звярнуць увагу на тое, што ў Расійскай імперыі здаўна існавала практыка некарэктнага выкарыстання агульнапрынятых назваў асобных тыпаў навучальных устаноў для дасягнення мэт, звязаных пераважна не з адукацыйнымі, а хутчэй з ідэалагічнымі, фінансавымі ці ўнутрыпалітычнымі праблемамі. Так, яшчэ ў 1781 г. у Гомелі было заснавана пачатковае 3-гадовае праваслаўнае духоўнае вучылішча, якое для штучнага павышэння аўтарытэту атрымала гучную назву «гімназія» [28]. У сваю чаргу, некаторыя іншыя тэрміны паступова страчвалі свой першапачатковы сэнс. Так, пад павятовымі вучылішчамі ў пачатку XIX ст. у Беларусі разумелі сярэднія 6-гадовыя навучальныя ўстановы з 4—6 класамі, выпускнікі якіх атрымлівалі гімназічную адукацыю і мелі права паступаць у Віленскі ўніверсітэт. У 1830—1850-я гг. іх праграма ўжо адпавядала толькі 3—5 малодшым класам гімназіі. А ў 1865 г. яны ўвогуле сталі 2-класнымі пачатковымі школамі і ў такім выглядзе існавалі ажно да канца XIX ст. (пазней рэарганізоўваліся ў 4-класныя гарадскія вучылішчы). Падобная палітычна акцэнтаваная практыка арганізацыі і дзейнасці такога ўзроўню навучальных устаноў, існавала, напрыклад, у Царстве Польскім [29].

Не абышла падобная блытаніна і сферу вышэйшай адукацыі. Найбольш праблем тут было звязана з ужываннем тэрміна «інстытут», які з латыні перакладаецца проста як «установа». У Расійскай імперыі ў XIX ст. ён меў два асноўных тлумачэнні — агульнаадукацыйная павышанага сярэдняга ўзроўню элітная школа альбо спецыялізаваная вышэйшая навучальная ўстанова. У якасці прыклада першага выкарыстання гэтай назвы можна прывесці прывілеяваныя Шляхетныя інстытуты ў Вільні і Беластоку з гімназічнай праграмай, другі ж варыянт ужо ўзгадваўся вышэй — Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Знішчэнне апошняга і рэзка крытычнае стаўленне царскага ўрада да «Паўночна-Заходняга краю» імперыі (у тым ліку і з-за мяжы) прымусілі Пецярбург зноў вярнуцца да практыкі падмены назваў асобных навучальных устаноў для хаця б частковага заблытвання тутэйшай і сусветнай грамадскасці. У 1873 і 1875 гг. у Вільні былі ўтвораны яўрэйскі і хрысціянскі настаўніцкія інстытуты. На тэрыторыі сучаснай Беларусі яны з'явіліся толькі напярэдадні Першай сусветнай вайны — у Віцебску (1910), Магілёве (1913) і Мінску (1914). Прымаліся выхаванцы настаўніцкіх семінарый з 2-гадовым педагагічным стажам. Тэрмін навучання быў тры гады. Утрымліваліся настаўніцкія інстытуты за кошт дзяржавы і грамадскіх сродкаў (земстваў і гарадскіх дум). Акрамя шэрагу асноўных агульнаадукацыйных прадметаў з праграмы старэйшых класаў гімназіі (Закон Божы, руская, царкоўнаславянская, французская і нямецкая мовы, матэматыка, гісторыя, геаграфія, прыродазнаўства, фізіка, чарчэнне, маляванне, спевы) значная ўвага ўдзялялася педагагічным навукам (агульная педагогіка, псіхалогія, гісторыя адукацыі, методыка выкладання асобных прадметаў), а таксама практыкаванням выхаванцаў у правядзенні заняткаў (пры кожным інстытуце дзейнічала ўзорнае вышэйшае пачатковае вучылішча). Адзначым, што віленскія інстытуты мелі больш шырокую праграму. Так, у хрысціянскім дадаткова праходзілі законазнаўства, чыстапісанне і гігіену, а ў яўрэйскім — закон іудзейскай веры, старажытнаяўрэйскую мову і гісторыю яўрэйскага народу. Затое ў Віцебску пры інстытуце дзейнічалі курсы настаўнікаў ручной працы, рускай мовы, гімнастыкі і чыстапісання, а таксама працавалі жаночыя педагагічныя курсы. Настаўнікаў у інстытутах звычайна была 6—13, у асноўным з ліку выхаванцаў універсітэтаў Пецярбурга, Юр'ева і Адэсы, праваслаўных духоўных семінарый Пецярбурга, Масквы і Кіева, настаўніцкіх вучэльняў — хрысціянскага інстытута Вільні і семінарый Полацка і Нясвіжа; рэальнага вучылішча Мінска, Строганаўскага вучылішча тэхнічнага малявання Масквы і інш. Выпускнікі настаўніцкіх інстытутаў не мелі права паступаць ва ўніверсітэты, а размяркоўваліся пераважна ў гарадскія і вышэйшыя пачатковыя вучылішчы, выконвалі абавязкі памочнікаў класных настаўнікаў у сярэдніх навучальных установах. Жадаючых вучыцца тут, аднак, было параўнальна няшмат — у 1915 г. у Віцебску займалася 100, у Магілёве — 57 і ў Мінску — 30 юнакоў. Тлумачыцца гэта, акрамя іншага, тым, што сур'ёзную канкурэнцыю настаўніцкім інстытутам складалі тутэйшыя гімназіі, для паступлення куды педагагічны стаж не патрабаваўся, але іх дыплом даваў права і паступаць ва ўніверсітэты, і працаваць у пачатковых ды сярэдніх навучальных установах [30, с. 24—27, 89—91, 274—275, 360—361]. Не дзіўна, што сярод прасунатай грамадскасці існавалі дастаткова жорсткія мянушкі такіх навучальных устаноў (тыпу «заведения-тупики», «плебейския университеты»).

Зыходзячы з гэтага відавочна, што настаўніцкія інстытуты ў Расійскай імперыі ў канцы XIX — пачатку XX ст. яўна не адпавядалі сваёй прывабнай назве. Іх з'яўленне было выклікана жаданнем улад часткова кампенсаваць недахоп настаўнікаў у дзяржаўных і прыватных навучальных установах, а таксама імкненнем прыглушыць пратэсты мясцовага насельніцтва наконт адсутнасці ў рэгіёне ўласнай вышэйшай навучальнай установы. Справа з апошнім, дарэчы, таксама не стаяла на месцы. У рэшце рэшт царскі ўрад знайшоў-такі варыянт: 9 лістапада 1911 г. у Віцебску была адкрыта філія Маскоўскага археалагічнага інстытута (такія ж аддзяленні ўжо працавалі ў Смаленску і Калузе), куды адразу ж было набрана 90 юнакоў (у

1918 г. іх лічба ўзрасла да 428). Дзейнасць спачатку двух факультэтаў — археалагічнага і археаграфічнага (з 1917 г. працаваў таксама і факультэт гісторыі мастацтваў) — праходзіла ў памяшканнях настаўніцкага інстытута. Праімперскую арыентацыю навучальнай установе гарантавала адсутнасць у ёй пастаяннага штату выкладчыкаў, якія перыядычна прыязджалі з Масквы ў Віцебск для чытання лекцый ці правядзення экзаменаў (У. Перцаў, А. Успенскі, М. Ардашоў, В. Гарадцоў, У. Дабравольскі і інш.). Адзіным жа мясцовым прафесарам гэтай навучальнай установы стаў у 1913 г. славуты айчынны гісторык А. Сапуноў. Прымаліся сюды асобы з гімназічнай ці нават універсітэцкай адукацыяй, але выпускныя дыпломы (вучоны-архівіст, вучоны-археолаг, вучоны-мастацтвазнаўца) асаблівых дадатковых правоў не прадастаўлялі. Выхаванцы інстытута працавалі ў тутэйшых архівах, музеях і бібліятэках, праводзілі археалагічныя раскопкі.

Падобнае ўрадавае рашэнне, зразумела, не было ідэальным, але дазваляла чакаць, што і іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы імперыі з цягам часу адкрылі б у «Паўночна-Заходнім краі» імперыі ўласныя філіі, якія ў далейшым, напэўна, маглі дасягнуць статусу самастойных цэнтраў вышэйшай адукацыі. Падобнае развіццё падзей было перакрэслена Першай сусветнай вайной. Пасля яе завяршэння ў БССР быў узяты курс на стварэнне ўласнай сеткі вышэйшых навучальных устаноў. Пры гэтым Магілёўскі настаўніцкі інстытут у 1918 г. быў перайменаваны ў педагагічны інстытут, а Віцебскія археалагічны і настаўніцкі інстытуты ў 1922—1923 гг. перавялі ў Мінск, дзе разам з мясцовым настаўніцкім інстытутам яны ўліліся ў склад БДУ.

Такім чынам, нарэшце на беларускіх землях стаў ствараццa сапраўдны класічны ўніверсітэт, у якім адразу была зроблена спроба не толькі залажыць асновы высокапрафесійнага выкладання гуманітарных, грамадскіх і дакладных навук, але і прывіць студэнцтву патрэбу да самастойнага асэнсавання наваколля, да выпрацоўкі абгрунтаваных альтэрнатыўных поглядаў і светаўспрымання. Таму натуральным ужо з пачатку 1920-х гг. стаў зварот некаторых універсітэцкіх інтэлектуалаў да гісторыі вышэйшай школы ў цэлым і яе станаўлення на беларускіх землях у прыватнасці. Не раз на старонках прэсы выступалі з грунтоўнымі матэрыяламі, часта аналітычнага характару, супрацоўнікі БДУ: ад рэктара да шэраговага выкладчыка ці нават студэнта. Так, У. І. Пічэта за 8 гадоў працы на пасадзе рэктара рэгулярна друкаваў свае разважанні пра ролю ўніверсітэцкай адукацыі і навукі як у сацыялістычным будаўніцтве, так і ва ўзбагачэнні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Гэтыя ж тэмы падымаліся ім падчас выступленняў з справаздачамі перад урадам аб выніках дзейнасці БДУ за той ці іншы перыяд, на сесіях ЦВК і з’ездах Саветаў БССР. У беларускіх газетах і часопісах 1920-х гадоў («Звезда», «Савецкая Беларусь», «Рабочий», «Полымя», «Вестник Наркомпроса», «Маладняк», «Советское строительство», «Працы БДУ» і інш.) ён распавядаў аб падзеях у жыцці БДУ, а значыць і ўсёй Беларусі, аб «беларускай мове як фактару нацыянальнай культуры», аб значэнні краязнаўства ў падрыхтоўцы студэнтаў як па-сапраўднаму нацыянальных кадраў для ўсіх галін гаспадаркі, аб пралетарызацыі і беларусізацыі БДУ і інш. Амаль што класічнымі і ў наш час з’яўляюцца яго артыкулы на тэму «Гісторыя вышэйшай асветы ў Беларусі» [31—33]. У 1928 г. выйшла яго агульнааналітычная праца «Пытанне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым», у якой была сканцэнтравана ўвага на цывілізацыйных аспектах дзейнасці ўніверсітэта ўвогуле, у тым ліку на беларускіх землях. Адначасова ён абгрунтоўваў неразрыўную сувязь паміж існаваннем Беларускага ўніверсітэта і Савецкай уладай, «заваёвамі Вялікага Кастрычніка» [34].

Аўтар ганарыўся сваімі даследаваннямі па дадзенай праблематыцы, бо яны дазвалялі яму распарсцёрці свае разважанні ў цэлым пра гістарычны шлях, пра культурныя страты і дасягненні беларускага народа. І Уладзімір Іванавіч усёй моцай свайго інтэлекту адстойваў погляды і высновы на гэты конт пад час «атак з нягоднымі сродкамі», якія былі санкцыянаваны «зверху» [35]. Для яго была зразумелай выключная роля Віленскай іезуіцкай акадэміі, Вілен-

скага імператарскага ўніверсітэта, іншых па-сапраўднаму вышэйшых навучальных устаноў, аб якіх ішло раней распавяданне. Аднак і ён быў вымушаны для падкрэслівання выключнасці рэвалюцыйных ператрусаў XX ст. пазней адзначыць, што «ў стары час да рэвалюцыі на Беларусі ня было ніводнай вышэйшай школы. Стары царскі ўрад баяўся будаваць на Беларусі вышэйшыя школы, іменна баяўся таму, каб не стварaць тут нацыянальнага руху, які па думцы царскага ўраду, мог бы аддзяліць Беларусь ад Расійскай імпэрыі. ...Культурнае, эканамічнае будаўніцтва, адраджэньне Беларусі не зьяўляецца магчымым, калі Беларусь не будзе мець сваіх культурных дзеячоў» [36].

У рэчышчы вышэй прыведзеных думак дастаткова цікава згадаць некалькі выказванняў Уладзіміра Іванавіча аб сутнасці і гістарычных каранях беларускай «мадэлі» вышэйшай адукацыі і яе ўспрыняцці грамадствам савецкай рэспублікі. Так, ён матафарычна адзначаў, што беларуская моладзь «... рыцарскі абараняла ідэю ўнівэрсытэту для працуючых і сваёю працаю апраўдала сваё ўступленьне да ўнівэрсытэту. Да ўнівэрсытэту цягнуцца тысячы маладых рук з мальбою аб навуковай справе і аб паднімаючым творчую думку чарадзейным напітку. Унівэрсытэт накорміць усіх галодных і напоіць усіх сьмягнучых» [37].

Ужо з першых крокаў сваёй дзейнасці БДУ, па меркаванні яго першага рэктара і іншых заснавальнікаў, стаў не толькі «культурным центром БССР», але адначасова і «культурным центром для всей этнографической Белоруссии» [38]. І з гэтага падавалася асабліва важным і сімвалічным у часы пабудовы «новага жыцця» тое, што менавіта «беларускія працоўныя масы... узьвялі чароўны, пекны будынак, вялікі храм духоўнага вызваленьня — універсітэт. З ўсіх канцоў, дзе чутна беларуская мова, пацягнуліся сюды, ва універсітэт, дзеці працоўных» [39]. Між тым У. І. Пічэта, як выхаванец класічнага па сваёй сутнасці імператарскага Маскоўскага ўніверсітэта, як педагог і навуковец, спазнаўшы важнейшыя састаўляючыя феномена ўніверсітэта ў цэлым, не мог не кіравацца ў сваёй арганізатарскай дзейнасці на пасадзе рэктара БДУ сусветнымі ўзорамі адукацыйных устаноў вышэйшага ўзроўню. Таму ён будаваў перспектыву не толькі аб стварэнні сапраўднай універсітэцкай карпарацыі, калі прафесары і выкладчыкі, «знаходзячыся ў поўным кантакце з студэнцтвам, будуць з ранейшым энтузіазмам тварыць новае жыцьцё», але і аб тым, каб у «недалёкай будучыне» беларускі ўніверсітэт быў пастаўлены «ў адну лінію з раней адчыненымі старымі Ўнівэрсытэтамі» [40]. Аднак гэтая «лінія», зразумала, у той час успрымалася ў БДУ больш за ўсё па-рэвалюцыйнаму прагматычна: універсітэт павінен быў не замыкацца «ў сьціслую сфэру сваёй акадэмічнай працы», а адклікацца «на ўсе палітычныя і гісторыка-культурныя моманты жыцьця Беларусі, а таксама і сусьветнага», выконваць «тыя навуковыя заданьні, якія яму ставілі тыя ці іншыя ўстановы». Але заўсёды памятаць, «што ён Беларускі Дзяржаўны ўнівэрсытэт...» [41].

Адной з першых форм прадстаўлення грамадскасці сутнасці ўніверсітэта ў Беларусі стала друкаванне ў выглядзе брашур гадавых справаздач БДУ перад урадам, якія ўтрымлівалі не толькі рознабаковую дакладную інфармацыю, але і элементы аналізу зробленага і пастаноўку задач на бліжэйшыя гады, разважанні наконт місіі БДУ [42]. Такі ж падыход, з перавагай апошніх структурных частак, уласцівы выданню, якое было прысвечана выпуску ўніверсітэтам у 1925 г. першых сваіх выхаванцаў — спецыялістаў-гуманітарыяў [43]. У шматлікіх варыяцыях была агучана роля БДУ ў нацыянальна-дзяржаўным адраджэнні падчас святкавання ў 1926 г. 25-годдзя навуковай і педагагічнай дзейнасці рэктара У. І. Пічэты і 5-годдзя існавання ўніверсітэта. Амаль ва ўсіх нумарах тагачасных газет і часопісаў друкаваліся нейкія матэрыялы пра жыццё і дзейнасць першынца беларускай вышэйшай адукацыі.

Такі пранікнёны і паважлівы падыход да ўспрыняцця і ацэнкі БДУ доўжыўся да канца 1920-х гг. Потым пачало знікаць многае з таго, што стала натуральным для беларускага грамадства і яго інтэлектуалаў за кароткі час станаўлення ўніверсітэцкай сферы — аб'ектыўнае светаўспрыманне, пачуццё асабістага гонару і гонару за вобласць дзейнасці, карпаратыўны дух і шмат чаго іншага. Разбуральным тут стала і «разбуйненне» ўніверсітэта, якое адбылося

ў пачатку 1930-х гг. Новыя інстытуты, што былі створаны на базе асобных факультэтаў БДУ, праз гады амаль што поўнасцю страцілі памяць аб сваёй alma mater, аб тым «гістарычным вектару» іх самастойнай дзейнасці на карысць народу і зямлі беларускай, які быў прачэрчаны менавіта з-за таго, што «бацькі-заснавальнікі» ўніверсітэта глыбока прадумалі і творча ўвасобілі канцэпцыю стварэння сапраўднай сістэмы вышэйшай адукацыі ў новай, дзяржаўна-самастойнай, Беларусі. І распачалося яе ўвасабленне якраз праз БДУ!

Не выклікае здзіўлення тое, што такая раптоўная страта памяці адбылася адразу ж пасля праведзенага «разбуйнення». Тагачасная атмасфера падштурхоўвала да таго, каб беларускія інтэлектуалы, навуковая і педагагічная інтэлігенцыя замыкаліся ў вузкім коле турбот і праблем «сваіх працоўных калектываў», але былі скіраваны ў сваёй дзейнасці на тэарэтычнае абгрунтаванне і практычнае ўвасабленне ўсеагульна калектывісцкіх планаў пабудовы «светлай будучыні чалавецтва». Вось чаму нават другі ўніверсітэцкі рэктар Я. П. Каранеўскі быў вымушаны па відавочнай падсказцы ўладных інстанцый «сваімі рукамі» разбурыць «класічнасць» ужо адбыўшагася ўніверсітэта, абгрунтоўваючы ідэю «разбуйнення» як БДУ, так і толькі-толькі пабудаванага Універсітэцкага гарадка. Рэктару прыйшлося падпарадкавацца палітычнаму рашэнню, але ён зрабіў спробу прапанаваць «па прыкладу РСФСР» рэарганізаваць БДУ ў «вышэйшую навуковую ўстанову, якая будзе рыхтаваць выкладчыкаў для ВНУ тыпу асістэнтаў, групаводаў і навукова-даследчых работнікаў масавага тыпу...» [44, арк. 77]. Тым самым практыка-арыентаваны ўхіл універсітэцкай адукацыі з грунтоўным навуковым суправаджэннем і напаўненнем, які так карпатліва, крок за крокам адбудоўваўся ў універсітэце У. І. Пічэтам і яго паплечнікамі, быў заменены на навамодны, але штучны. А той жа У. І. Пічэта на працягу 1920-х гг., аб'ектыўна ацэньваючы тагачасныя рэаліі і місію БДУ, быў амаль што самым паслядоўным пры адстойванні сваіх прапаноў па стварэнні як новых факультэтаў БДУ, так і Інстытута беларускай культуры, а потым і Беларускай акадэміі навук [45, арк. 6; 46]. І гэта пры тым, што адначасова ён усяляк падтрымліваў стварэнне ў структуры ўніверсітэта паўнавартасных навуковых інстытутаў — фізікі, медычных, біялогіі і інш. Такі падыход да асэнсавання місіі і прызначэння беларускага ўніверсітэта грунтаваўся на сусветных узорах. Напрыклад, пры адстойванні неабходнасці адкрыцця ў сценах БДУ тэхніка-хімічнага факультэта Уладзімір Іванавіч спасылаўся на вопыт дзейнасці падобных кірункаў універсітэцкай адукацыі ва ўніверсітэтах Германіі, Францыі, Англіі. І гэта пры тым, што ў Беларусі на канец 1920-х гг. не было ніводнай тэхнічнай ВНУ, аб чым нават на адным з пасяджэнняў Дзяржплана СССР вёў размову яго старшыня Г. М. Кржыжаноўскі [47].

Падобны гістарычны экскурс дазваляе звярнуць увагу тых, хто імкнецца знайсці карані сучасных універсітэтаў у агульнаадукацыйнай прасторы, якая да таго ж фарміравалася не толькі на працягу доўгага часу, але і ў сістэме розных палітычных і грамадскіх каардынат. Дзіўна, калі раптам у апошні час пайшлі святкаванні нават стагадовых юбілеяў беларускіх універсітэтаў ці разгортваецца падрыхтоўка да іх. І, напрыклад, адначасова ў розных юбілейных выданнях падаецца ўзаемаскасоўваючая інфармацыя: святкуецца стагоддзе як бы проста «старейшего учебного заведения Беларуси», але ўсё ж універсітэта, хаця такі статус нададзены яму толькі 15 гадоў назад. Адначасова без аргументацыі канстатуецца, што «21 ноября 1910 г. состоялось торжественное открытие учительского института, одного из старейших в Беларуси высших (? — *аўт.*) учебных заведений» [48, с. 5]. Між тым універсітэцкія навукоўцы падаюць пачаткі «ўніверсітэцкай» адукацыі, спасылаючыся толькі на факт стварэння ў часы Расійскай імперыі чарговага «высшего учительского института» з дакладна зафіксаванай адсутнасцю ў яго статуса нават проста «высшего учебного заведения», хаця справядліва адзначаючы ўпартыя намаганні беларускага грамадства ў другой палове XIX — пачатку XX ст. вярнуць на Беларусь менавіта ўніверсітэт [49, с. 3; 50; 51, с. 4]. Такі карпаратыўны патрыятызм зразумелы і яго можна паважаць. Але калі на першае месца выходзіць не «доўгі шлях беларусаў да свайго Універсітэта», а мястэчковае імкненне пад-

крэсліць сваю першаснасць, асаблівасць, якая грунтуецца не на якасных паказчыках дзейнасці, а толькі на спробах прасунуць усведамленне аб «старажытнасці» сваіх каранёў, то тады дэвальвіруецца і нават страчваецца сама ідэя, сутнасныя характарыстыкі ўніверсітэта як асаблівай сферы чалавечай цывілізацыі, а нават як увасабленне гэтай цывілізацыі. На жаль, нават тыя сучасныя беларускія ўніверсітэты, якія былі народжаны першым універсітэтам Беларусі — БДУ, таксама вольна інтэрпрэтуюць сваю гісторыю. Адны, БДМУ, без імпэту да БДУ як сваёй alma mater адзначаюць свае гадавіны. Другія, БДПУ імя Максіма Танка, на ранейшым этапе дакладна зафіксаваўшы 1922 г. датай свайго нараджэння, імкнуцца далучыцца да Віцебска і Магілёва і паглыбіць сваю гісторыю да часоў усё тых жа настаўніцкіх інстытутаў імперскага паходжання [52; 53]. На гэтым фоне адлік гісторыі БДПА з політэхнічнага вучылішча 1920 г. (згадаем меркаванне-канстатацыю Г. М. Кржыжаноўскага) дастаткова паказальны [54, с. 4]. Па сутнасці, толькі БДЭУ (можа, з-за адсутнасці іншых «кропак адліку») заўсёды ўважліва падкрэслівае неадрыўнасць сваёй гісторыі ад гісторыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Напрыканцы хацелася б згадаць, што ў ідэі класічнага ўніверсітэта спрадвеку былі закладзены найважнейшыя яго функцыянальныя абавязкі — быць скарбніцай ведаў (у тым ліку, зразумела, і гістарычных), пастаянна іх узбагачаць і перадаваць новым пакаленням, пастаянна знаходзіцца ў пошуку ісціны і пазнання свету, фарміраваць духоўны свет чалавека і грамадства. Гэтыя і многія іншыя характарыстыкі і пазначэні місіі ўніверсітэта шмат разоў абгрунтаваны філасофскай думкай, пацверджаны практыкай універсітэцкай дзейнасці [55—57]. Таму ўсім нам, хто мае непасрэднае дачыненне да ўніверсітэцкай карпарацыі, як мы мяркуем, у сваёй дзейнасці неабходна кіравацца агульнай для ўсіх нас Ідэяй, быць паважлівым да гісторыі, да калег і саміх сябе.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Уколова, В. И.* Из истории эстетических учений раннего средневековья (эстетические взгляды Боэция) / В. И. Уколова // Европа в средние века: экономика, политика, культура / отв. ред. З. В. Удальцова. М. : Наука, 1972. С. 277—278.

2. *Ле Гофф, Ж.* Цивилизация средневекового Запада / Ж. Ле Гофф. М. : Прогресс-Академия, 1992.

3. *Гофф, Жан Ле.* Интеллектуалы в Средние века / Ж. Ле Гофф. СПб. : Изд-во С.-Петерб. ун-та, 2003.

4. *Ле Гофф, Ж.* Другое Средневековье: Время, труд и культура Запада / Ж. Ле Гофф. Екатеринбург : Изд-во Уральского университета, 2000.

5. *Topolska, M. B.* Społeczeństwo i kultura w Wielkim Księstwie Litewskim od XV do XVIII wieku / M. B. Topolska. Poznań; Zielona Góra : Bogucki Wydawnictwo Naukowe, 2002.

6. *Галенчанка, Г. Я.* Еўрапейскія сувязі Беларусі ў этна-канфесійным і духоўным кантэксце (XIII — сярэдзіна XVII ст.) / Г. Я. Галенчанка. Мінск : ЗАО «Пропилеи», 1998.

7. *Капранова, В. А.* История педагогики / В. А. Капранова. М. : Новое знание, 2005.

8. Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении: в 12 т. / под общ. ред. П. П. Семенова. СПб. : Тип. М. О. Вольфа, 1881—1901. Т. 3: Литовское и белорусское Полесье / А. К. Киркор, С. В. Максимов и др. 1882.

9. История Вильнюсского университета / А. Бацис [и др.]; под ред. С. Лазутки. Вильнюс : Мокслас, 1979.

10. *Ambroise, J.* Komisja Edukacji Narodowej w Polsce. (1773—1794) / J. Ambroise. Wrocław : Wyd-wo PAN, 1979.

11. *Bieliński, J.* Uniwersytet Wilenski. (1579—1831): w 3 t. / J. Bieliński. Kraków : Druk. W. Anczyca i Spółki, 1899—1900. T. 1.

12. *Крыжановский, Е.* Учебные заведения в русских областях Польши в период ея разделов / Е. Крыжановский // Киевская старина. 1882. № 2.

13. *Самусік, А. Ф.* Гродзенская каралеўская медыцынская акадэмія / А. Ф. Самусік // Вышэйшая школа. 2007. № 4. С. 62—68.

14. *Slawiński, W.* Dr. Jan Emmanuel Gilibert, profesor i założyciel ogrodu botanicznego w Wilnie / W. Slawiński. Wilno : Druk. Lux, 1925.

15. *Beauvois, D.* Szkolnictwo polskie na ziemiach Litewsko-Ruskich. 1803—1832: w 2 t. / D. Beauvois. Lublin : Redakcja Wydawnictw KUL, 1991. T. 1.

16. Сборник постановлений по Министерству народного просвещения: в 3 т. СПб. : Тип. П. П. Сойкина, 1875—1876. Т. 1. Ст. 39—41.

17. Полное собрание законов Российской империи. 1-е изд. СПб. : Тип. 2-го отд. собственной его имп. величества канцелярии, 1830. Т. 27.

18. *Truchim, S.* Wspólpraca polsko-rosyjska nad organizacja szkolnictwa rosyjskiego w początkach XIX wieku / S. Truchim // Łodzkie towarzystwo naukowe. Wyd. II. № 30. 1960.

19. Полное собрание законов Российской империи. 1-е изд. СПб. : Тип. 2-го отд. собственной его имп. величества канцелярии, 1830. Т. 32.

20. *Погодин, А.* Виленский учебный округ / А. Погодин. СПб. : Тип. П. П. Сойкина, 1901.

21. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу. Ф. 732. Воп. 1. Спр. 244.

22. *Новоселов, А.* Ревизия профессором Сенковским белорусских училищ в 1826 году / А. Новоселов // Журнал Министерства народного просвещения. 1872. № 5.

23. Полное собрание законов Российской империи. 2-е собр. СПб. : Тип. 2-го отд. собственной его имп. величества канцелярии, 1833. Т. 7.

24. *Довгялло, Д. И.* Последняя страница истории Виленского университета / Д. И. Довгялло. Вильна : Тип. И. Завадского, 1914.

25. *Самусик, А. Ф.* Виленские академии как центры высшего образования Беларуси (1930-е — начало 1940-х годов) / А. Ф. Самусик // Вышэйшая школа. 2006. № 4. С. 48—53.

26. Белорусская сельскохозяйственная академия. 150 лет истории / под ред. С. И. Назарова и др. Минск : Ураджай, 1990.

27. *Самусік, А. Ф.* Праекты арганізацыі вышэйшых навучальных устаноў на беларускіх землях у другой палове XIX стагоддзя / А. Ф. Самусік // Адукацыя і выхаванне. 1997. № 4. С. 17—25.

28. *Горючко, П.* Материалы для истории Гомельского духовного училища. 1781—1809 / П. Горючко // Могилевские епархиальные ведомости. 1903. № 12. С. 155—163.

29. *Нигалатий, М.* «Кандалы на нас найдутся...». Гимназии Царства Польского в воспоминаниях современников / М. Нигалатий // Родина. 2009. № 1. С. 49—52.

30. Памятная книжка Виленского учебного округа за 1915 год. Вильна : Тип. А. Сыркина, 1915.

31. *Пичета, В. И.* Две культуры на Белоруссии (культура XVI в. и культура социалистическая) / В. И. Пичета // Советское строительство. 1928. № 3—4.

32. *Пічэта, У.* Савецкая ўлада і пытанне аб адчыненні ўніверсітэта на Беларусі / У. Пічэта // Советское строительство. 1928. № 6.

33. *Пічэта, У. І.* Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і Кастрычнік / У. І. Пічэта // Савецкая Беларусь. 1928. 7 лістапада.

34. *Пічэта, У. І.* Пытанне аб вышэйшай школе на Беларусі ў мінулым / У. І. Пічэта // Працы Беларускага дзяржаўнага щніверсітэта. 1928. № 19. С. 3—19.

35. Савецкая Беларусь. 1929. 1 сакавіка.

36. Звезда. 1927. 9 апреля.

37. Савецкая Беларусь. 1922. 30 кастрычніка.

38. Звезда. 1923. 3 октября.

39. Савецкая Беларусь. 1924. 15 сакавіка.

40. Савецкая Беларусь. 1923. 30 кастрычніка.

41. Звезда. 1926. 5 декабря.

42. Белорусский государственный университет за 1921/22 акад. год. Мн., 1922; Белорусский госуниверситет в 1922/23 учебном году (итоги и перспективы) / сост. зам. ректора БГУ проф. С. З. Каценбоген. Минск, 1923.

43. Першы выпуск Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. 20 лютага 1925 года. Віцебск, 1925.

44. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей — НАРБ). Ф. 4-п. Воп. 14. Спр. 42.

45. НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 12.

46. Звязда. 1928. 14 кастрычніка.

47. Рабочий. 1928. 8 августа.

48. *Солодков, А. П.* Витебскому государственному университету имени П. М. Машерова — 100 лет / А. П. Солодков // Веснік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. 2010. № 6.

49. Витебский государственный университет имени П. М. Машерова (1910—2010) / под ред. А. П. Солодкова. Витебск : УО «ВГУ им. П. М. Машерова», 2010. 328 с.

50. *Солодков, А. П.* Первые шаги к открытию университета в Витебске / А. П. Солодков [и др.] // Веснік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. 2009. №. 3. С. 3—10.

51. *Солодков, А. П.* Витебский учительский институт: создание и деятельность (1910—1918 гг.) / А. П. Солодков [и др.] // Веснік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. 2010. № 1. С. 3—11.

52. Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка: гісторыя і сучаснасць (1922—2002). Мінск, 2002.

53. Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова: мінулае і сучаснасць / пад рэд. М. І. Вішнеўскага. Магілёў : МДУ імя А. А. Куляшова. 2003. 260 с.

54. История Белорусской государственой политехнической академии / К. И. Баландин [и др.]; под общ. ред. Б. М. Хрусталева. Минск : УП «Технопринт», 2000. 196 с.

55. Ідэя університэту: Анталогія / упоряд.: М. Зубрицька, Н. Бабалик; відп. ред. М. Зубрицька. Львів : Літопис, 2002. 304 с.

56. Университет как центр культуропорождающего образования. Изменение форм коммуникации в учебном процессе / М. А. Гусаковский [и др.]; под ред. М. А. Гусаковского. Минск : БГУ, 2004. 279 с.

57. Университетская идея в Российской империи XVIII — начала XX века: Антология: учеб. пособие. М. : РОССПЭН, 2011. 527 с.

## РЕЗЮМЕ

На значительном фактическом материале рассмотрены некоторые аспекты развития университетского и в целом высшего образования на территории современной Беларуси. Акцентировано внимание на том, что политика российского самодержавия в области образования была непоследовательной, но направленной на сдерживание формирования высокоинтеллектуальной среды в Северо-Западном крае. На примере создания и деятельности БГУ, по-настоящему первого классического белорусского университета, показана осознанная реализация его создателями общей идеи университета. Одновременно обращено внимание на тенденцию «состарить» свою историю современными молодыми белорусскими университетами, что никаким образом не отвечает «духу и букве» университетской корпорации.

## SUMMARY

Based on substantial factual material, some aspects of the development of university education and higher education in general on the present-day Belarus territory were analyzed. It was pointed out that the educational policy of the Russian monarchy was inconsequent and aimed at inhibiting the formation of intellectual environment in the Northwestern Krai. A conscious implementation of the general idea of the University was shown by the example of formation and activities of the Belarusian State University, which was the first classical Belarusian university. At the same time, the current tendency of young Belarusian universities to make their history look «older» was emphasized, which does not correspond to the spirit of the university community.

Статья поступила в редакцию 17 ноября 2011 г.